

*Ганаруся табой, Беларусь!*

Анатоль Зэкаў

# Адна сям'я – ад А да Я












А Б В Г Д



*Вучаць азбуку ўсе вучні ў школе:*
*Юля, Каця, Соня, Ліза, Даша,*
*Глеб, Алесь, Мікіта, Света, Толя,*
*Стас, Арцём, Максім, Мілана, Маша,*
*Ганна, Яна, Наста і Валодзя, —*
*Ды і той, хто тут сябе не знойдзе.*

*А каб літары вы ведалі —*
*Напісаў я кнігу гэтую.*





# Аа

Альт, альтанка, амяла,
Акуляры, ганак,
Корань, аксаміт, пчала,
Аканіцы, ранак.

Скарб, аздоба, булава,
Арбалет, аловак.

Хто з вас злічыць,
Колькі А
Ёсць у гэтых словах?



# Бб

Баскетбол, басейн, будан,
Барс, бабуля, баразна,
Бортнік, брук, бізон, банан,
Бохан, брама, барана.

Баабаб, брусніцы, бой,
Брод, брунет, будова...

Чым падобны між сабой
Гэтыя ўсе словы?



# Вв

Вучань, валтузня, выток,
Віртуоз, візіт, віток,
Вусы, востраў, вол, вакзал,
Вільчык, веснічкі, вакал.

Выган, выдавец, вагон,
Выдра, вышыўка, вазон,
Вежа, веер, відарыс...

Можа, ты дапоўніш спіс?





# Гг

Глобус, гумка, галька, грак,
Гліна, герб, гамонка,
Грукат, гушкалка, гамак,
Гавань, граблі, гронка.

Гульні любіш —
Дык гуляй,
Словы следам паўтарай.



# Дд

Дабрадзей, дуга, даведка, дрожкі,
Дыктар, дождж, драпежнікі, дзічына,
Дойліды, дэталь, даяркі, дошкі,
Дворнік, дзеяч, далягляд, дзяўчына,
Дыназаўры, дыні, дзяцел, дочкі.

Дзе тут множны лік,
Дзе — адзіночны?



# Ее, Ёё



Егер, ёга, мёд, цукерка,
Ёўня, песня, перапёлка,
Елка, клёкат, ёд, талерка,
Кеды, лета, ясень, ёлка.

Певень, ёмка, перапіска,
Ёкат, ёрш, палетак, цеслі...

Словы з Е падкрэслі рыскай,
Словы з Ё — дзвюма падкрэслі.



# Жж

Жаба, жэрдка, гуж, вітраж,
Жбан, жароўня, жаўтацвет,
Вернісаж, жаўна, віраж,
Жарабя, пейзаж, жакет.

Жэўжык, жмуркі, жэмчуг, жораў,
Шарж, жырафа, жэст, жняцы.

Дзе Ж — у пачатку слова,
Ну а дзе Ж — у канцы?





# Зз

Зборнік, заасад, зямля, загадка,
Забіяка, зграя, завадатар,
Зебра, зух, змагар, закладка,
Завіруха, золак, знак, заўзятар...

Болей слоў на З згадаеш —
Дык «дзясятку» атрымаеш.

# Іі

Іскра, інтэрвал і тэніс,
Іпадром, імбрычак, тэзіс,
Ліра, кніга і імшара,
Спіна, кліп, імя, гітара...

А цяпер мне назаві,
Калі ты старанны вучань,
Дзе назоўнікі тут з І,
Ну а дзе І ў вершы — злучнік.





# Йй

Байка, пойма, небакрай,
Звычай, майстар, верабей,
Зайздрасць, лейка, рой, трамвай,
Вырай, вулей, чарадзей.

Чайка, гай, герой, гультай,
Бой, жалейка, клей, алей,
Усёзнайка, батэрфляй,
Вейка, геній, майка, глей...

Ты за мною паўтарай
І працягвай спіс далей.

# Кк

Кветка, крапіва, кавун,
Кошык, локан, гук, рака,
Кіт, кашуля, апякун,
Кіпа, касманаўт, мука.

Калаўрот, кірмаш, куток,
Канюшына, асака.

Назавеш мне словы, што
Пачынаюцца на К?





# Лл



Лоўж, зялёны, белы, глог,
Ластаўка, вясёлы, келля,
Лесавік, ласун, бярлог,
Локаць, лепшы, ліпкі, зелле.

Лічба, лайнер, лань, калач,
Лівень, ложак, лад, лазовы.

Ну а ты цяпер пазнач:
Дзе — прыметнік,
Дзе — назоўнік.



ў у т с р п о н м л к й і з ж ё е д г в б а а б в г д е ё ж з і й к л м н о п р с т у ў



# Мм

Мроя, марынад, мароз,
Мятлік, міміка, маланка,
Мюзікл, модніца, матрос,
Малпа, морква, мураванка.

Мытня, муліна, матыў,
Морс, метро, медуза, мова...

З чарады слоў гэтых ты
Праскланяй любое слова.

# Нн

Невад, намітка, настрой,
Назубок, намер, насенне,
Навіна, набат, напой,
Ніцма, напрасткі, натхненне.

Назіркам, наўгад, найперш,
Накіп, нізашто, нізоўе...

Прачытай яшчэ раз верш
І падкрэслі ў ім прыслоўі.





# Оо

Офіс, ордэн, молат, крос,
Котка, опера, жэтон,
Знічка, кафля, альбатрос,
Бокс, гадзіннік, трон, балкон.

Конаўка, начоўкі, шво,
Комікс, корак, цмок, гурма.

Назаві ўсе словы з О.
А ў якіх яго няма?





# Пп

Падшыванец, плот, палас,
Паратунак, пазіраць, палетак,
Паляваць, падлесак, прас,
Прызба, проса, пасека, падлетак.

Паляцець, падбіць, парог,
Пахіліцца, пратаптаць, паляна,
Пральня, палячыць, пірог,
Прыструніць, прысяга, плыт, пашана...

Прачытай за словам слова
І падкрэслі дзеясловы.

# Рр

Рампа, барада, карова,
Рэшта, чарада, парада...

Корань абазнач у словах,
А затым пазнач канчатак.





# Сс

Салавей, слімак, салома,
Сцяг, салют, сядзіба, сон,
Светлячок, сумленне, стома,
Святаяннік, стог, салон.

Споведзь, сум, сузор'е, соя,
Сені, сіта, свята, сказ.

З гэтых слоў усіх якое
Прасклоняеш ты для нас?



# Тт

Трэнер, тузаніна, твар,
Трэска, трыста, тэмперамент,
Трыццаць тры, туга, тавар,
Трое, таварыства, талент,
Тупат, тын, тысячагоддзе.

Хто лічэбнікі тут знойдзе?



# Уу

Успамін, свавольнік, бук, загар,
Зубр, уюн, мянушка, град,
Пудзель, хлус, укус, камар,
Пульт, рука, аўтобус, сад.

Луг, урочышча, усмешка,
Птушка, буралом, рагу...

Словы тут уперамешку.
А ты выберы, што з У.





# Ўў

Крыўда, праўда, роўня, неспадзеў,
Коўш, паўтысячы, паўднёвае.

Растлумач усім, чаму і дзе
Пішам У мы нескладовае.

# Фф

Ля фантана ходзіць Дана.
За фазанам сочыць Яна.
Фільм глядзяць Адась і Коля,
А фасолю поле Поля.
У футбол гуляе Стасік.

Дзе тут дзейнік,
Дзе — выказнік?





# Хх

А ты вымавіць гатовы
Хутка гэтыя вось словы:
Хмара, хованка, хвіліна,
Хараство, хмызняк, хваіна.

Харч, хлюпота, хрэснік, храм,
Хата, хваля, хцівец, хустка?

А цяпер ці скажаш сам,
Як гучаць яны па-руску?



# Цц

Прыцягнуў цвыркун цабэрак,
А ў цабэрку — пяць цукерак.
Пяць цукерак, што ў цабэрку,
Ён, цвыркун, раздаў цяцеркам.

Цэбар свой цвыркун з гары
Коціць і не ведае,
Ці хто зможа паўтарыць
Хуткамоўку гэтую.





# Чч

Чарада, чарот, чарпак,
Чапля, чахарда, чытанка,
Чарнавік, чапец, чужак,
Частакол, чытач, чаканка.

Чыж, чачотка, чалавек,
Чуб, чабор, чыгунка, чутка,
Чмель, чарніла, чабурэк...

Словы ўсе прамовіш хутка?





# Шш

Шашкі, шпора, шпага, шына,
Шыба, шахматы, шпагат,
Шпак, шпіталь, шнурок, шыпшына,
Шпацыр, шакалад, шпінат.

Шапка, шалупіна, шэршань,
Шабля, шэпт, шалаш, шаша.

Колькі слоў у гэтым вершы,
Пачынаюцца на Ш?



# Ыы

Шыбы, тыдзень, шыла, бровы, валуны,
Тынк, тыгрыца, дымаход, ляшчына,
Сыраежка, курыца, чыжы, сланы,
Прыз, сюрпрыз, кусты, дубы, ажына.

А цяпер няхай мне скажа кожны,
Дзе лік адзіночны, а дзе — множны.



# Ьь

Ростань, быльнік, лялька, лось,
Быль, разьбяр, алень, ласось,
Кашаль, шпілька, камізэлька,
Рэдзька, карамель, апенька.

Омуль, бэлька, пэндзаль, конь,
Чмель, карась, канькі, агонь,
Студзень, гаць, пальчатка, кужаль...

Для чаго знак мяккі служыць?



# Ээ

Этажэрка, эталон, эстэт,
Грэчка, эскалатар, этыкет,
Клякса, святлафор, арэх,
Кніганоша, рэпа, брэх,
Шайба, бэз, паэт, пюрэ...

Назаві ўсе словы з Э.





# Юю

Юнга, юбілей, саюз,
Капялюш, юнак, каюта,
Дзюба, полюс, клюшка, шлюз,
Юшка, ювелір, камп'ютар.

Калі словы з Ю запомніш,
Можа гэты спіс дапоўніш?

# Яя

Азбуку вясёлую сваю
Я пісаў-карпеў ад А да Ю.
А цяпер, чытач, чарга твая:
Словы прыгадай на Я.

